**Увага! Новы расклад руху гарадскіх аўтобусаў.**




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 36 (65). Слонім. 3 — 9 верасня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны


# ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ШКОЛА!





## Школьны званок

Які ж гэта голас гарой залятае
Так зычны, прыгожы, вясёлы?
Вось гэта званочак дзяцей прыклікае:
«Да школы, дзеткі, да школы!»
Бо школа, як маці, усім памагае
Навукай — багаты ці голы.
Дый лепшу дарогу жыцця адкрывае—
«Да школы, дзеткі, да школы!»

Бо школа любіці дабро навучае
Ляпей, чым царквы дый касцёлы,
Навукай высока людзей паднімае—
«Да школы, дзеткі, да школы!»
Звані жа, званочку, хай Бог памагае!
Звон-зык твой так мілы, вясёлы!
Бо шмат чаго ў школе усякі пазнае—
«Да школы, дзеткі, да школы!»

**Гальяш ЛЕЎЧЫК, Слонім, 1926 г.**

**НАВІНЫ** *ад БелаПАН*

### Мутация

**У белорусских детей, проживающих на зараженных радиацией территориях, выявлены изменения формулы крови.**

Специалисты-гематологи считают, что вслед за изменением формулы крови должны последовать изменения и на генетическом уровне. Из-за отсутствия в Беларуси необходимого технического оборудования длительное время специалистами изучалось все, «от микробов до лесных массивов, а человек, практически, не изучался».

### Нарушают устав

**В настоящее время в дисциплинарном батальоне Вооруженных Сил Беларуси, расположенном в минском микрорайоне Масюковщина, отбывают наказание около 350 солдат и сержантов срочной службы.**

Более 35% из них осуждены за неуставные взаимоотношения, 20% — за самовольное оставление воинских частей, около 10% — за хищения.

### Нас становится меньше

**По предварительным данным Министерства статистики и анализа Беларуси, на 1 июля 1998 года численность населения страны составила 10190,6 тысячи человек.**

Таким образом, за первую половину нынешнего года население Беларуси уменьшилось примерно на 13,2 тысячи человек, или на 0,13%.

**ЗДАРЭННІ**

### Затрыманы натарыус

Днямі па падазрэнні ў атрыманні хабару ад кліента быў затрыманы дзяржаўны натарыус гарадской натарыяльнай канторы Ю. Гэты факт падцвердзіла міжрайпракуратура, якая вядзе следства.

### Не пахваліць бацька сына

**У мінулую суботу на дарозе Слонім — Быцень, насупраць Жыровіцкага манастыра, "Фольксваген" з пяццю пасажырамі ўрэзаўся ў "Мерсэдэс".**

Маці вадзіцеля "Фольксвагена" з калецтвамі дастаўлена ў бальніцу, астатнія пасажыры абыйшліся сінякамі.

Высветлілася, што малады хлопец вырашыў пафарсіць на бацькавай іншамарцы і парушыў правілы дарожнага руху.

### Абакраў вартаўнік

**Варта было слонімцу К. у мінулую нядзелю пакінуць на некалькі хвілін без нагляду сваю легкавушку каля вёскі Тушэвічы, як з салона зніклі 280 тысяч рублёў і бутэлька настойкі.**

Міліцыя хутка затрымала злодзея. Ім аказаўся вартаўнік мясцовага райсельхамунгаса М., які за кароткі час паспеў не толькі абчысціць машыну, але і выпіць украдзеную бутэльку.

### І ў падвале патрэбны замок

**На мінулым тыдні з падвала аднаго з дамоў па вуліцы 1 Сямігодкі ўкралі веласіпед.**

Магчыма гэтага не здарылася б, калі б падвал быў зачынены на замок.

### Спаць трэба дома

**П'яны жыхар аднаго з дамоў на Энцы заснуў у пад'ездзе на лесвічнай пляцоўцы.**

А калі прачнуўся, то не знайшоў у кішэні 400 даляраў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**



**НАВІНЫ**

### Хопіць хлеба і піва

**Калгасы і саўгасы нашага раёна працягваюць здачу хлеба дзяржаве.**

Як паведаміла намеснік дырэктара камбікормавага завода Галіна Мялешкіна, на збожжапрыёмны пункт дастаўлена 12500 тон зерня, пры плане 16150 тон.

3000 тон высокагатункавай пшаніцы ўжо адпраўлена на Лідскі камбінат хлебапрадуктаў, а 2000 тон піваварнага ячменю — на Іванаўскі солададавы завод. Нарыхтавана 9000 тон адборнага жыта, якое чакае сваёй адпраўкі на Скідзельскі камбінат хлебапрадуктаў.

### Прызнана лепшай

**Група ўлікова-рэгістрацыйнай работы Слонімскага ГРАУС, якую ўзначальвае ст. лейтэнант міліцыі Эдуард Мацкевіч, прызнана лепшай у вобласці па выніках працы за шэсць месяцаў 1998 года.**

Інфармацыя, якую сабрала гэта група, у значнай ступені дапамагла ў раскрыцці злачынстваў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Урок Адама Міцкевіча

**Новы навучальны год вучні і настаўнікі Слонімшчыны пачалі з урока, прысвечанага Адаму Міцкевічу, якому сёлета спаўняецца 200 гадоў з дня нараджэння.**

На ўроках ішла размова пра жыццёвы і творчы шлях паэта, гучалі яго вершы і ўрыўкі з паэм.

**Міхась АКУЛКА**

### Юныя паломніцы

**У сярэдзіне жніўня ў Польшчы пабывалі слонімскія дзяўчынкі з касцёльнага хору "Спакой і дабро".**

Перад вернікамі яны спявалі рэлігійныя песні са свайго рэпертуару, а таксама зрабілі паломніцтва на Ясную Гару да Чэнстахова, прайшоўшы за пяць дзён 145 км дарогі разам з польскімі паломнікамі. Сярод іх былі Лапашова Марына і Лагонда Ірына (СШ №3), Лажэчнікава Ірына (СШ №2) і іншыя.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

### Яшчэ адна партыя

**У Слоніме створана суполка Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (БСДГ).**

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" старшыня суполкі Георгій Маскаўчук, такое рашэнне прыняў устаноўчы сход, які прайшоў нядаўна ў Слоніме.

**Алег ТАЧОНЫ**

# БУДЗЕМ ГЛЯДЗЕЦЬ «КУЛЬТУРУ»

**Як ужо пісала "ГС", хутка ў Слоніме з'явіцца новы тэлеканал "Культура". Падрабязна пра гэтую падзею мы папрасілі расказаць начальніка тэлевізійнага рэтранслятара Вячаслава Хомчыка.**

**— Вячаслаў Аркадзьевіч, калі слонімцы ўбачаць на экранах сваіх тэлевізараў "Культуру"?**

— Зусім хутка, 20 верасня. З Мінска паступіла неабходная апаратура і мы заканчваем яе мантаж. Гэта былы пецярбургскі канал, на якім адсутнічае рэклама.

**— "Культуру" слонімцы будуць глядзець у поўным аб'ёме?**

— Усё залежыць ад таго, як будуць плаціць. Пры ўмове своечасовай аплаты за трансляцыю канала, "Культура" будзе ісці ў эфір без перапынкаў. Яшчэ плануюць на гэты канал уводзіць абласныя перадачы. Яны застаюцца і на Беларускім тэлебачанні, але будуць цяпер ісці і на "Культуры".

**— Які лёс НТВ?**

— Пакуль яго не будзе, хоць мы спачатку і планавалі трансляцыю гэтага канала...

**— Вячаслаў Аркадзьевіч, а ці ёсць магчымасць для адкрыцця ў Слоніме прыватнага тэлевізійнага канала?**

— Такая магчымасць на сённяшні дзень ёсць. І калі б гарвыканкам дапамог нам арганізаваць перадачу на 7 канале, то ў нас магло б быць сваё слонімскае тэлебачанне. Можна даваць на гэты канал НТВ або што іншае і ў той жа час трансліраваць мясцовае тэлебачанне — навіны, рэкламу...



*Начальнік рэтранслятара Вячаслаў Хомчык (злева) і вядучы інжынер Васіль Карнейчык*

**— Што яшчэ патрабуецца для адкрыцця прыватнага канала?**

— Спачатку трэба звярнуцца ў Камітэт па частотах, які выдзеліць частату, канал, і толькі пасля гэтага можна займацца непасрэднай работай. Неабходна прафесійная апаратура: відэакамера і відэамагнітафоны.

**— Чаго яшчэ чакаць слонімцам у бліжэйшы час?**

— На новую тэхніку пераводзіцца 10 канал. Гэта — беларускае тэлебачанне. Будзе новы перадатчык. Спадзяемся, што палепшыцца якасць трансляцыі. У верасні закончым работы па паляпшэнню якасці гучання першага канала беларускага радыё. Ён стане стэрэафанічным.

**Сяргей ЁРШ, Мікалай СУПРУН (фота)**

# ДЛЯ ДАЧАЎ І ЛАЗНЯЎ

**Незвычайны і прыгожы домік з'явіўся нядаўна на тэрыторыі вайсковага лясніцтва на Савецкай вуліцы.**



Як паведаміў начальнік лясніцтва Уладзімір Масальскі, такія домікі для дачаў і лазняў будуе іх арганізацыя. Навіна спадабалася слонімцам, таму з'явіліся ўжо першыя заказчыкі.

**Валянцін ЧУРЫЛА Мікалай СУПРУН (фота)**

НАШЕ ИНТЕРВЬЮ

# "А Я ВОТ ЖИВОЙ"

**Мы уже писали, что слонимчанин, 45-летний подполковник Иван Мартынович, недавно вернулся домой из африканского плена**



*Иван Мартынович с женой Антониной Александровной*

Напомним, что Иван Мартынович работал по контракту в составе экипажа вертолета Ми-8 в африканской стране Сьерра-Леоне. После военного переворота вертолетчики оказались в качестве заложников у путчистов. Потом их переправили в Либерию, а затем — в Нигерию, где они шесть месяцев провели в тюрьме. Только благодаря усилиям российских и белорусских дипломатов наш земляк и его друзья были освобождены.

Сегодня Иван Мартынович рассказывает о своих африканских приключениях.

— В Пружанах живет мой товарищ, с которым мы познакомились в Туркестанском военном округе. Потом судьба забросила нас служить в Беларусь. Когда товарищ ушел из армии, в Орше он познакомился с представителем правительства Сьерра-Леоне, который приехал в Беларусь покупать вертолет. Он хорошо знал русский язык, так как закончил Киевский университет. Для обслуживания вертолетов нужна была команда специалистов. Друг порекомендовал меня, я дал согласие. Для меня были не деньги главное, а скорее всего интерес к сказочной Африке. Я знал, что буду обслуживать хорошо знакомую мне технику. Когда мы прилетели в Сьерра-Леоне, там уже было два наших вертолета "Ми". Дело в том, что в Сьерра-Леоне своеобразный рельеф местности — горы, джунгли. Если перекрыть одну из дорог, то попасть из одного района в другой — настоящая проблема. Стоит отметить, что эта страна — бывшая колония Британии. Она богата алмазами, там есть золото, вольфрам, уголь, нефть, ценные породы железной руды.

**— С вами был заключен контракт?**

— Да. Когда мы приехали на место, правительство Сьерра-Леоне заключило с каждым из нас индивидуальный контракт на полгода. Отработав этот срок, я уехал в отпуск. Потом продолжил контракт. За время моего пребывания в Сьерра-Леоне сменилось четыре правительства. Наша работа их удовлетворяла.

**— Что значит удовлетворяла?**

— Они не отпускали нас, зная, что если мы уедем, авиация не сможет подняться в небо. До нашего приезда там работали летчики ЮАР, которые небрежно эксплуатировали технику. Был случай, когда они за месяц угробили новенький вертолет.

**— Какие грузы вам приходилось перевозить?**

— Разные, в том числе деньги, алмазы, продукты питания, боеприпасы, раненых, пленных. Было время, когда перевозили жену президента, хотя сам президент летать с нами отказывался. Во время полетов разное случалось, бывало, что нас обстреливали...

**— Значит, вы подвергали свою жизнь смертельной опасности, может лучше было уехать?**

— Возможно, но я, преимущественно, находился на земле, готовил вертолет к вылету. Да что для меня один вертолет, если я раньше обслуживал 350 таких машин.

**— Вы там были свободны?**

— Сначала да, но 25 мая 1997 года к власти пришло военное правительство. За нами начали следить, контролировать наше передвижение. У нашей виллы, где мы жили, была выставлена охрана, чтобы мы не сбежали. Если раньше мы все вместе четверо могли летать, то при военных нас выпускали только парами — двое летали, а двое оставались на земле. В таких условиях мы продолжали работать, нам платили деньги.

**— Значит, при военных было плохо?**

— Да не было там плохо. И обстановка была нормальная. Прекратилась гражданская война. Правительство работало, банки и магазины работали. Просто эта страна оказалась в информационной блокаде, уехали все посольства.

**— Так как же вы оказались в плену?**

— У каждой истории есть своя предыстория. Шестнадцать стран Западной Африки создали организацию ЭКОВАС для урегулирования конфликтов в этом регионе. В свою очередь при ЭКОВАСе была создана чисто военная организация — ЭКОМОК, по принципу миротворческих сил ООН. Последним решением ЭКОВАСа военное правительство Сьерра-Леоне должно было в апреле этого года передать власть гражданским. Но почему-то в конце января силы ЭКОМОКа начали военные действия против военного правительства Сьерра-Леоне. Впереди ЭКОМОКа шли банды из местных жителей, которые сжигали дома, грабили и убивали людей. В связи с этим в этой стране стало опасно работать. Нам нужно было улетать, чтобы спасти технику. Ведь один вертолет не был куплен этой страной, и я нес за него ответственность.

На первом вертолете вылетели африканские летчики, а на втором — мы. У них на борту находились члены правительства, у нас — их жены, дети и обслуживающий персонал. Летели мы в Либерию, где должны были сесть в международном аэропорту. При заходе на посадку сьерраленоский лётчик увидел на взлетной полосе военные самолеты и принял решение о посадке на другой аэродром. Мы сели на другом аэродроме, где через пять минут нас арестовали силы ЭКОМОКа и отвезли в свой штаб. Нас досмотрели, забрали вещи. Потом пригласили прессу. В присутствии журналистов нам выдали деньги и документы. После чего отвезли на аэродром, снова все отняли, надели наручники. Не объяснив причину ареста, отвезли в соседнюю страну Нигерию, посадили в камеры-одиночки. Два дня нас жестоко избивали. Всё делалось ночью, специально для устрашения... Месяц нас держали в кандалах с цепями. В результате чего у меня отказала нога. Я сильно болел, попал в санчасть. Нас охраняли непредсказуемые солдаты. А что значит окуренный марихуаной человек с оружием? Например, я ему не понравился — и он меня шлепнул. Мне не страшно было умереть, страшно было, что родные не узнают, как и за что я погиб.

**— Была ли возможность убежать из тюрьмы?**

— Наверное, если бы я был каким-нибудь Рембо и смог перестрелять охрану, захватить машину... У нас не было денег. А куда я побегу без денег, если до посольства тысяча километров.

**— Что думает человек, оказавшись в такой ситуации?**

— Быстрее бы закончился весь этот кошмар. Искали способ передать весточку своим. На наше счастье, умер нигерийский президент, который в тюрьмах томил тысячи людей, где они исчезали без следа. К власти пришли новые люди, изменилось и к нам отношение. Пятого августа объявили, что нас передадут российскому посольству. Но вскоре я понял, что никакие дипломаты за нами не приедут. Мои предположения подтвердились. Нас снова отвезли в Сьерра-Леоне, где ждала тюрьма. Там мы встретили своего четвертого товарища, а также своих знакомых, с которыми работали. Всем было предъявлено одно обвинение — поддержка реакционного режима.

**— Обращались с вами по-прежнему плохо?**

— Условия были не лучше, но радовало то, что мы были вместе. Кормили два раза. На завтрак давали маленькую булочку и четвертую часть кружки чая, что-то вроде забеленной молоком воды. Вечером давали рис и бульон наподобие воды, в которой варилась рыба.

**— Что значит для арестованного в африканской тюрьме счастливый день?**

— Если есть в жизни какая-то радость, то она и в тюрьме радость. Может это будет звучать банально, но для меня, например, было радостью, когда я мог закурить сигарету. Была радость, когда я мог охрану обыграть в шахматы, в шашки... А самыми плохими днями в тюрьме были суббота и воскресенье. Для охраны это тоже выходные, именно в эти дни недели мы не ждали освобождения.

**— Сколько времени вы провели в сьерра-леонской тюрьме?**

— Трое суток. После чего нас передали нашим дипломатам в Гвинее.

В Российском посольстве в Гвинее нас встретил посол. Мы выпили фронтовые сто грамм водки, переночевали в гостинице и на следующий день самолетом Аэрофлота улетели в Москву.

**— Вы привезли сувениры?**

— На сувениры у нас денег не было. Нам сказали, что правительство Сьерра-Леоне конфисковало их у нас. Мой приезд домой жена оплатила.

**— Иван Михайлович, извините за бестактный вопрос, ваш внешний вид свидетельствует о том, что в Африке вам довелось не только многое пережить, но похоже, что вас не миновали и болезни?**

— За шесть месяцев тюрьмы шесть раз болел малярией. Кстати, для них малярия, что для нас насморк. Малярией заболевают от укуса комара. Во время болезни температура поднимается до 40-41 градуса. У них есть эффективные средства борьбы с этой болезнью, и мне приходилось обращаться за медицинской помощью.

**— Иван Михайлович, а сейчас давайте о более приятном. Кто она — африканская женщина?**

— Африканская женщина — это несчастная женщина. Я не говорю о женщинах из высшего общества, я говорю о простых африканках. Они завидуют белым женщинам. Пользуются мазями для отбеливания кожи. Красят губы, носят парики. Африканская женщина — это женщина-хозяйка. На ней — хозяйство и воспитание детей. Кстати, детей у них обычно 5-6. Если ребенок умирает, то это для них не такое большое горе, как для нас. Женщина может рожать не выходя замуж. Дети могут быть от разных мужчин. Для них это общепринятая норма. Несмотря на возраст и комплекцию, они поют и танцуют, ходят на дискотеки. Они очень тщательно следят за своим телом. Поэтому даже в возрасте 50 лет вы не встретите женщину с дряблым телом. Они очень пластичны. Вообще, для африканцев жизнь — это игра. Играют в мужа и жену. Играют в войну. Играют в президентов. Даже после смерти мужа, жена на следующий день может петь и танцевать. Мне кажется, что все они делают неосознанно. Такие понятия как честь и достоинство у них отсутствуют. Они лицемеры и вруны. Тем не менее, мне кажется, что мы оставили у них о себе самые хорошие впечатления, как пунктуальные, честные и работоспособные люди, как хорошие специалисты. Также и у меня там осталось много хороших знакомых и друзей. В далекой Африке можно жить, но недолго. Родина есть Родина. Даже если что-то не устроено — это наше, родное.

**— Как встретила вас Родина?**

— Перед Слонимом я остановил машину, вышел и низко поклонился этой земле... Пришлось побывать в самом пекле, а я вот живой.

**Записал Николай СУПРУН Фото автора**

